# Слаўнае спаборніцтва

Ужо дзесяты год спаборнічаюць паміж сабой будаўнічыя Сталінграда і Мінска. Гэтае надзвычайнае спаборніцтва нарадзілася тады, калі пачалі яшчэ толькі адбудоўвацца горад-герой, Сталінград і сталіца Беларускай рэспублікі — Мінск.

Спаборніцтва сталінградскіх і мінскіх будаўнікоў пераўтварылася ў моцную дружбу двух калектываў, зрабілася традыцыйным і дало надзвычайныя вынікі. Гэтае спаборніцтва стварыла ўмовы для хутчэйшага адбудавання і пабудавання Сталінграда і Мінска. Соцыялістычнае спаборніцтва вельмі многа дапамагло ў павышэнні вытворчасці, памяншэнні сабекошту будаўніцтва, ва ўкараненні перадавых метадаў працы, прагрэсіўных канструкцый і матэрыялаў.

Асабліва добрачынна паўплывала спаборніцтва на распаўсюджванне перадавых доследаў. Два разы ў год арганізуецца спраўджванне як выканана соцыялістычнае спаборніцтва.

Мінчане наведваюць Сталінград, а сталінградцы — Мінск. Падчас спраўджвання выканання дагавора адбываюцца шматлікія спатканні, задушэўныя гутаркі, абмен думкамі. Апрача таго адбываецца практычны паказ перадавых метадаў працы. На пабудовах Мінска пабывалі вядомыя сталінградскія будаўнікі як: Рудніцкі, Сычугаў, Сукуркін, Бутэнка, Арэшын і іншыя, якія падзяліліся сваімі вопытамі. Брыгадзір камплекснай арганізацыі працы, а цяпер дэпутат Вярхоўнага Совета РСФСР, Рудніцкі падчас пабыўкі ў Мінску падзяліўся вопытам сваёй працы.

Пасля ўкаранення камплекснай арганізацыі працы, і ўтварэння камплексных брыгад, мінчане дабіліся высокай вытворчасці працы. На будовах Сталінграда і Мінска цяпер сустракаецца шмат навін.

У 1951 годзе мінскі майстар Рашап падчас пабыўкі ў Сталінградзе дэманстраваў свой спосаб апрацоўкі сцен і калон пад натуральны мармур. Паказ гэты выклікаў вялікае зацікаўленне і прыцягнуў увагу шматлікіх слухачоў. Сталінградцы ўкаранілі гэты спосаб у сябе.

Знатны муляр Мінска — Філіпаў падчас пабыўкі ў Сталінградзе дэманстраваў на будове метад складвання «пяцёркай. Пасля таго сталінградцы застасавалі гэты метад таксама ў сябе.

Шмат чаго запазычылі сталінградцы ад мінчан. Брыгадзір тынкоўшчыкаў Сямёнава, калі была з дэлегацыяй у Сталінградзе расказала новы спосаб тынкавання фасадаў мармуровай краткай метадам прамыўкі.

Пасля вывучэння сталінградцы моцна і шырока ўкаранілі яго ў сябе на будовах. За апошнія тры гады сталінградцы атынкавалі гэткім спосабам больш ста тысяч квадратных метраў фасадаў. Апрача таго на пабудовах Сталінграда спосабам мінскіх будаўнікоў дастасоўваецца механізаваны бескампрэсарны опырск раствораў, што дало магчымасць паскарыць выраб апрацоўкі фасадаў і значна павысіць якасць працы. Паводле метаду мінчан укаранёны штучны граніт, фармапласт і г. д.

У 1956 г. два разы адбыўся абмен дэлегацыямі будаўнікоў. Візіты гэткія, як заўсёды прынеслі вялікую карысць. У час пабыўкі на будовах, члены дэлегацый цікавяцца працэсамі будаўніцтва, заўважваюць дадатныя і адмоўныя бакі.

Так напрыклад у жніўні, дэлегацыя сталінградскіх будаўнікоў пабывала на пабудовах Мінска. Трэба прызнаць, што дэлегацыя гэта ўбачыла тут шмат добрых бакоў, але заўважыла таксама і недахопы. На сходзе актыва будаўнікоў пасля абмеркавання вынікаў спаборніцтва за першае поўгоддзе — сталінградцы сказалі аб усіх добрых метадах працы мінчан, а апрача таго падалі шмат крытычных заўваг.

Таксама рабілі мінчане наведваючыя Сталінград. Гэткая сяброўская дзелавая крытыка з'яўляецца вельмі дзейснай. Стварае яна ўмовы для хутчэйшай ліквідацыі недахопаў. Мінчане наведаўшы Сталінград у гэтым годзе таксама ўбачылі шмат чаго карыснага.

Трэст «Сталінградстрой» самы першы пачаў ужываць у сябе спецыяльныя блокі дымавых і вентыляцыйных каналаў. Мінчане высока ацанілі гэтую навіну і сказалі, што гэткія блокі будуць ужываць і ў сябе.

Трэст «Сталінградстрой» самы першы асвоіў выпуск панелей з карамзітабетона на цэлую кватэру. Ёсць гэта вельмі аблегчаная канструкцыя. Асваенне выпуска керамзітабетонных панелей стварае спрыяльныя ўмовы для паскарэння будаўніцтва. На будовах трэста арганізавана выкананне буйнаразмерных гіпсашлакаваных панелей перагародак. Апрача таго трэст замест дарогай лахавай бляхі да пакрыцця вакальных адлівак ужывае кераміку.

Усе гэтыя навіны мінчане вырашылі застасаваць у сябе.

У соцыялістычным спаборніцтве двух калектываў прымаюць удзел тысячы будаўнікоў. Вялікае значэнне мае асабістае і брыгаднае спаборніцтва. Паміж будаўнікамі заключаюцца соцыялістычныя дагаворы з канкрэтнымі абавязацельствамі.

Моцны, баявы характар мела спаборніцтва паміж вядомымі мулярамі Мінска і Сталінграда — Булахавым і Грачавым. У дзень трыццацігоддзя Совецкай Беларусі Булахаў быў узнагароджан ордэнам Леніна. Сталінградскі муляр свайму мінскаму сябру па-працы паслаў сардэчныя прывітанні і абавязаўся выканаць не менш чым дзве з палавінай гадавых норм працы. Нікалай Грачоў датрымаў свайго слова. Гэткіх прыкладаў можна прывесці нямала.

Знатны муляр Сталінграда В. Рудніцкі спаборнічаў са знатным мінскім каменшчыкам Філіпавым. Спаборніцтва гэта садзейнічала дасягненню імі высокіх вытворчых паказчыкаў.

Камплексная брыгада сталінградскіх муляраў узначальвана Асадзец і мінская брыгада ўзначальвана Цветковым, заключылі паміж сабой дагаворы соцыялістычнага спаборніцтва на 1956 год.

Камплексная брыгада сталінградскіх тынкоўшчыкаў Будэнко спаборнічае з брыгадай мінчан, узначальванай Дзігелевіч і г. д. Вось гэтак працягваецца цудоўная працоўная садружнасць будаўнічых калектываў двух совецкіх гарадоў.

Л. ХАЙМОВІЧ.



*150 - кватэрны дом для рабочых мінскага трактарнага завода.*



*Сталінград: пабудова новых жыллёвых дамоў для рабочых металургічнага завода «Чырвоны Кастрычнік».*

## Люблю радзіму

Люблю радзіму: шум пшаніцы
Яе калгасных вольных ніў
І на бязвоблачнай званіцы
Птушыных песень пераліў.

А на гумне стук малатарні,
Дзявочы смех і галасы,
Яе садоў наліў янтарны,
Яе дубровы і лясы.

І над маўклівай ракою,
Там, дзе сумуюць чараты,
Дыханне ласкі і спакою,
І сонца захад залаты.

Разбураныя ліхалеццем,
Зноў падняліся гарады.
О Беларусь, мой любы кветце,
Мой край, які ты малады!

ЮРКА ГАУРУК







— Так!.. Гэтая мадэль не падвядзе!...

# У абарону каня

*З канём я пазнаёміўся яшчэ тады, калі ў мяне пад носам не раслі вусы. Менавіта тады я пабачыў на лузе жарабя, яно скубала сабе сакавітую траву і не звяртала на мяне ніякай увагі.*

*Я вельмі зацікавіўся жарэбям, спадабаўся мне яго хвост, бліщчастая шэрсць і каблукаватая, прыгожая шыя.*

*Яго матуля — кабыла спутаная пасвілася непадалёк, відавочна перажыла не першу маладосць, бо ніжняя лупа ў яе абвісла як у маёй цёткі.*

*Заўважыўшы мяне набліжаючагася да жараблі, кабыла ціха заіржала, быццам папярэджваючы яго, але жарабя было самаўпэўненае так як кожны з нас за часоў маладосці. Не звяртала ніякай увагі на матчыныя перасцярогі.*

*Падыйшоўшы да жарабяці я хацеў пагладзіць яго. Пачаў прымаўляць «кось-кось». Жарабя павярнула голаў, паглядзела на мяне чорнымі вачыма і нечакана брыкнула задам. Крыкнуўшы ад болю я ўпаў, капыты моцна ўдарылі мяне ў жывот.*

*Ад таго выпадку я набраў да коней вялікай пашаны і навучыўся не падыходзіць да коней ззаду.*

*Пазней бываючы ў вясковай кузні я бачыў як каваль бясстрашна падкоўвае коням заднія ногі. Уяўляў я тады сабе, што кавалі гэта людзі асаблівага складу і таму не баяцца конскіх брыканняў.*

*Згодзіцеся хіба са мною, дарагія чытачы, што кожны конь любіць свайго гаспадара. Сустракае яго іржаннем калі ён прыносіць авёс або воду, ахвотна працуе для гаспадара колькі мае сваіх конскіх сіл, конь не піша на гаспадара скаргаў ў рэдакцыю, а чаму гаспадар адплачвае каню чорнай няўдзячнасцю — гэта я ніяк не разумею.*

*Калі я бачу воз нагружаны гарою гною і бульбы, і каня выцягнутага як струна ў намаганні выцягнуць воз з пяску, а побач гаспадара, які шпарыць каня пугаю — тады ў мяне ўсё пратэстуе.*

*Конь - жывёліна цвярозая, скромная, часта лепш выхаваная ад свайго гаспадара. За што-ж яе катаваць, біць?! Калі-ж конь сустрэнецца з справядлівымі адносінамі да сябе?*

*Чалавек — гэта гучыць горда.*

*Дык чаму-ж гэты чалавек часам робіцца горш жывёліны?*

Дзядзька Лявонь

## Шасэ пад Крывою

Дырэктар ПКС у тэлефон: — Ало, звярніце ўвагу на шасэ пад Крывою...

Дарожны раён: — Так, так, гэты год вясною, мы добра наладзілі шасэ пад Крывою, а што? Мо' там няма якіх дарожных знакаў?

Дырэктар у тэлефон: — Зараз прыеду да вас машынаю і паедзем паглянем...

Праз дваццаць мінут дырэктар ПКС і загадчык Дарожнага раёна, грузавою машынаю зварочваюць на шасэ пад Крывою...

Дырэктар ПКС-а моцна круціць руль... машына пачынае штораз ляпей падскакваць.

Загадчык Дарожнага раёна невытрымаў і пачаў: — Ну й бракаро...

Моцна скаланула машынай і загадчык Дарожнага раёна прыцяў зубамі язык, схапіўся рукамі за твар і выбалбатаў: — Да доктара...

Дарагія чытачы, перасцярагаем! Не размаўляць на шасэ пад Крывою пакуль не выздаравее загадчык Дарожнага раёна.

КОРАНЬ

### Што скажуць салдаты

Аднаму, вельмі зазнайнаму салдату ўдалося атрымаць чын яфрэйтара.

Нашыўшы на пагоны па адным лычку і атрымаўшы пропуск ён выйшаў на шпацыр.

Сустрэўшы генерала, зазнайны салдат нават і не думае каб «узяць пад казырок».

Абураны генерал затрымаў салдата і пачаў яго лаяць. — Што-ж з цябе за радавы, калі ты генералу не аддаеш належнага гонару?!

— Перабачайце, пан генерал Па-першае, то я не радавы, — вымоўна зірнуўшы на свае яфрэйтарскія пагоны, адказаў салдат. А па-другое, не трэба сварыцца, бо калі чыны паміж сабою пачнуць лаяцца, дык што-ж тады салдаты скажуць! (фб).

### Кусок хлеба

*На дрэве сядзіць крумкач, а ў дзюбе трымае лусту хлеба.*

*Ніадкуль падбегла лісіца ды кажа: — браток ты мой, дай ты мне беднай кусок, бо я вельмі галодная.*

*— Не дам — кажа крумкач.*

*— Нядобры ты — жаліцца лісіца, але ведай, што я маю добрае сэрца. Я-ж да цябе прыйшла з весткай. Твая жонка з дырэктарам бадзяецца.*

*— Што, мая жонка?*

*— Як гэта, — я яму пакажу — крыкнуў крумкач і падскочыў са злосці, аж хлеб выпаў з клюва.*

*Агледзеўся крумкач, а лісіца ўжо падхапіла ды панесла.*

*— Доля-ж ты мая, падумаў крумкач, значыць, калі твая жонка з дырэктарам то і рота не адчыняй, бо страціш кусок хлеба.*

З. Б.

## ПРЫКАЗКІ і ПРЫМАЎКІ

**Малыя дзеці не даюць спаць, большыя дзеці не даюць... жыць.**

**Лепш дзесяць разоў цяжка хварэць ніж раз лёгка памярэць.**

**Найлепш вучыцца стрыгчы на чужой барадзе.**

**Як бедны мужык есць курыцу тады напэўна: альбо хворы мужык, альбо хвора... курыца.**

## Ой, у полі пад ракітай

Запіс Р. Шырмы. Апр. Цікоцкага.

























*Ой, у полі, у полі пад ракітай,*
*Дзе клубіцца па начам туман.*
*Там ляжыць сырой зямлёй зарыты.*
*Малады, чырвоны партызан.*

*Я сама героя праваджала*
*У шлях далёкі, дзе вайна гула*
*Шаблю вострую яму дарыла,*
*Варанога коніка вяла.*

*Паў ён паміж травамі густымі.*
*Паў ён куляй скошаны ў баю.*
*За Советы, за сваю радзіму*
*Ён злажыў галованьку сваю.*

*Ой, у полі, у полі пад ракітай,*
*Дзе клубіцца па начам туман.*
*Там ляжыць сырой зямлёй зарыты,*
*Малады, чырвоны партызан.*

## АГАФОН АБРОТКА НАВЕДВАЕ СЯБРА



*Агафон — сябра вясёлы,*
*Раз дамоў ідучы з школы*
*Ён сабе прыпомніў штосьці*
*І зайшоў да Колі ў госці.*

*Паказаў яму Міколе*
*(Пазайздросціць уся школа)*
*Лыжы новыя й канькі*
*Што блішчаць як агнькі.*

*Агафон яго хваліў,*
*Што аб спорце не забыў.*
*Пасля, глянуўшы на поле,*
*Гаварыў ён так Міколе:*

*— Яшчэ ёсць сярод нас дзеці,*
*Што забылі ўсё на свеце.*
*Паспрабуй іх абудзі,*
*Яны-ж спяць як медзведзі.*


Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Польшчы Адрас рэдакцыі: гор Беласток, вул Маніфесту Ліпцовага 25, тэл 25 89 Умовы падпіскі на 6 месяцаў — 15 зл 60 гр., на 3 месяцы — 7 зл 80 гр. Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161 w Białymstoku. Prenumeratę za zleceniem wysyłki zagranice przyjmuje PKWZ „Ruch" Warszawa, Aleje Jerozolimskie 119, tel 8-05-05, konto PKO 1-6-100024 Warszawa. Cena prenumeraty zagranicę: kwartalnie 10.15. półrocznie 20.30. rocznie 40.60. Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку Т-7-1928